# „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“—НАЙЛЕПШЫ ПАДРУЧНІК

*(Віецбск, 6-я школа)*

У нашай школе „Іскры Ільліча“ выпісваюцца першымі трыма групамі. Калі мы атрымліваем сьвежы нумар часопісі, дык адразу прачытваем усе апавяданьні. Потым вучымся сваімі словамі пераказваць тое, аб чым пішацца ў апавяданьнях. Вучням часопісь вельмі падабаецца.

„ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“ ДЛЯ НАС НАЙЛЕПШЫ ПАДРУЧНІК. Кепска толькі, што часопісь рэдка выходзіць,—раз у месяц.

Усе Школы павінны таксама скарыстоўваць часопісь „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“, як падручнік. Настаўнікам першых груп „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“ намнога дапамогуць у працы.

Дзяткор КАПЫСКІ.

# БЯРЭЦЕ З НАС ПРЫКЛАД

### МЫ САБРАЛІ ПАДПІСКІ НА 61 ЭКЗЭМПЛЯР

Дзяткораўская брыгада Гарбацэвіцкага сельсавету сабрала падпіскі на „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“ на 61 экзэмпляр. На гэтым мы ня спынімся. Будзем і далей працаваць над пашырэньнем дзіцячай часопісі „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“. Мы заклікаем усе дзяткораўскія брыгады ўзяць з нас прыклад.

Старшыня дзяткор-
брыгады Р. ГАЛАВАЧ.



*Жняярка за працай.*

**ДЗЕЦІ! Выпісвайце, чытайце і пашырайце сваю часопісь „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“**

**„ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“—найлепшы падручнік для малодшых вучняў.**

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 15 кап. |
| На 6 „ | 90 кап. |
| На 1 год | 1 р. 80 кап. |

Падпіску здавайце на пошту.

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 3-ці

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

Умовы падпіскі:

На 1 месяц . . 15 к.
На 3 м-цы . . 45 к.
На 6 м-цаў . . 90 к.
На 1 год. . 1 р. 80 к.

№ 7 ліпень 1931 г.

Адрас рэдакцыі і канторы:
МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25

А. ЯКІМОВІЧ

## ЖНІВО Ў КОЛГАСЕ

Дзень стаіць пагодны,
На небе ні хмаркі.
Па калгаснай ніве
Коціцца жняярка.

Роўную палоску
Сьледам высьцілае.
Жыта ёй пакорна
Галаву схіляе.

Коні вараныя
Сыплюць дружнай паркай,
Весела, ахвотна,
Аж гудзіць жняярка.

Вяжуць дзеўкі жыта
Сьпелае, буйное.
Працаваць так лёгка
Дружнай грамадою.

Не баляць ім плечы,
І ня ломіць сьпіны:
Замяняе працу
Цяжкую машына.

Зьніклі песьні суму,
Ня чуваць іх болей,
Нудных і цягучых,
У жніво на полі.

Сонца шле усьмешкі
Гэтай вольнай працы.
Золатам праменьні
Сонца зіхацяцца.

Сноп за снопам зносяць
Піонэры з нівы.
Шчочкі зружавелі
У дзяцей шчасьлівых.

І растуць радкамі
На загонах бабкі,
Стройныя, таўстыя,
Высокія шапкі.

Няхай сохнуць бабкі!
На шырокіх гонях,
Ветрык жартаўлівы
Хай з імі гамоніць.

Няхай пакрасуюць
На сваёй палосе,
Пакуль малатарня
У госьці запросіць.

Дзень стаіць пагодны,
На небе ні хмаркі.
Па колгаснай ніве
Коціцца жняярка.

# ДАПАМАГЛІ КОЛГАСУ






*Апавяданьне Р. ШАТЭРНІКА*
*Малюнкі САМАТЫЯ*

У хаце—ціхата. Старэйшы брат Лявонкі—Кастусь ужо даўно ўстаў і пашоў у атрад. Ён—піонэр. Іх атрад сёньня збор склікае Бацькоў у хаце ня было. Пашлі недзе. Толькі мушыны аркестар іграў на розныя лады.

Мабыць, доўга яшчэ спаў-бы Лявонка, каб ня гэты кот. І трэба-ж гэтак здарыцца. Сядзіць гэта кот на вакне. Грэецца на сонейку, цярэбіць лапкаю густую поўсьць. Аж бачыць—поўзае муха ў Лявонкі па тварыку.

„Вось брыда, не дае спаць хлопцу. Трэба прагнаць яе“,—падумаў кот, ды як скочыць Лявонку на твар. Лявонка перапалохаўся Прачнуўся.

— Каб на цябе ліха,—кажа Лявонка на ката,—спалохаў мяне Ня дам табе есьці, будзеш ты ведаць.

Ня менш спужаўся і кот. Ён борзьдзенька шмыгануў на печ. Толькі хвосьцікам вільнуў у паветры.

Лявонка больш ня спаў. Надзеў свае кароткія штонікі. Старанна пачысьціў зубы, памыўся, бо кіраўнік групы акцябрат, дзе быў Лявонка, ня раз казаў, каб дзеці чыста мыліся і чысьцілі зубы.

З вуліцы праз адчыненае вакно пачулася вясёлая гамонка і сьмех. Лявонка кулём падбег да вакна. Сьпераду Тодарава Гэля несла чырвоны сьцяг. Побач з ею ішоў Паўлюк і біў у бубен. Гэта піонэры ішлі ў бліжэйшы колгас дапамагаць зьбіраць ураджай. Лявонка, доўга ня думаючы, шмыгануў за дзьверы і далучыўся да піонэраў.

Па дарозе сустрэлі матку Лявонкі. Яна несла ў кошыку траву сьвіньням.

— Куды ты, Лявонка? Ды ты-ж нічога ня еў!—крыкнула яна.

— Мамачка, я пайду ў колгас. Там сёньня пачынаюць жаць. Мы ім будзем дапамагаць. Будзем снапы насіць.

* * *

У колгасе яшчэ ад ранку кіпела работа. Колгасьнікі рыхтаваліся да ўборкі ўраджаю. Змазвалі жняяркі, кармілі коняй.

— А вось і дапамога нам ідзе, бачыце!—і Клім, старшыня колгасу, паказаў у той бок, адкуль чуліся сьпевы і блішчалі на сонцы чырвоныя гальштукі.

Піонэры спыніліся ля двара, дзе стаялі машыны. Іх ветліва спаткаў старшыня колгасу. Павёў на двор. Расказаў ім аб тым, што будзе колгас сёньня рабіць. Піонэры падзяліліся на брыгады. Кожнай брыгадзе дадзена заданьне: вязаць і насіць снапы.

— А ты, малы, што будзеш рабіць? Ты-ж снопа не падымеш,— кажа Клім, убачыўшы Лявонку.

— Падніму! Я таксама буду насіць снапы!—радасна адказаў ён.

Пашлі на поле. Ціхі ветрык зьлёгку калыхаў буйныя каласы колгаснага жыта. А жыта, нібы мора, разьляглося на бязьмежных прасторах. Сьпелыя каласы хіліліся ўніз і чакалі жняяркі.

— Ну, прыехалі! Цяпер за працу,—сказаў старшыня.

Усе спыніліся. Сярпамі аджалі з краю. Пусьцілі жняяркі. Іх цягнулі коні.

Стракатаньне жняярак, вясёлыя галасы колгасьнікаў і піонэраў напаўнялі ваколіцу. Піонэры спрытна вязалі і зносілі снапы. Ставілі іх у бабкі.

Зазьвінеў званок. Званілі на абед. Усе пашлі ў сталовую. А там ужо чакалі колгасьнікаў налітыя міскі цёплага супу і талеркі з блінчыкамі. Піонэрам, акрамя гэтага, далі па шклянцы сьвежага малака.

Кончыўся абед. Піонэры выпускалі насьценную газэту. Да іх падышоў Клім.

— Ну, дарагія таварышы,— пачаў ён гаварыць, — колгасьнікі шчыра дзякуюць вам за працу. Мы не чакалі, што вы, маладыя комунары, так старанна будзеце працаваць. З вас можна ўзяць прыклад і старэйшым. Але-ж гэта ня



ўсё. Яшчэ ня ўсе беднякі і серадnякі ўступілі ў колгас. Яны яшчэ падзедаўску жнуць сярпамі, гнуць свае сьпіны. Трэба нам агульнымі сіламі пераканаць іх, што толькі ў колгасе, разам мы зможам палепшыць сваё жыцьцё. Зьнішчым старое, пазбавімся ад кулакоў. Раскажэце ўсім аб нашым жыцьці.

Уважліва слухалі піонэры. Малы Лявонка ўстаў і папрасіў слова.

— Я з сваім бацькам некалькі разоў гаварыў, але яго ўгаварвае кулак Карпей ня ісьці ў колгас. Ён кажа яму, што ў колгасе дрэнна жыць. Але я раскажу яму, як у вас працуюць, як вы жывяце. Ён уступіць у колгас.

Толькі падвечар піонэры разышліся. Старшыня ад імя ўсіх колгасьнікаў яшчэ раз падзякаваў ім.

*
* *

— Татачка, каб ты бачыў, як жывуць у колгасе! Жыта іх куды лепшае за наша. Яны за адзін дзень шмат нажалі, бо жнуць жняяркамі, ня так, як мы, сярпом. А як весела працаваць гуртам! Проста не заўважаеш, як час ляціць. І есьці ў іх ёсьць што. Лепш, як у нас. Татачка, трэба і нам уступіць у колгас,—казалі назаўтра бацьку Лявонка і Кастусь.






*Апавяданьне* *І. КАГАНОЎСКАЙ*

*Малюнкі* *ПАШКЕВІЧА*

Волька і Сяргейка—дзеці бедняка. Жылося ім вельмі кепска. Матка іх памерла. Дзеці заўсёды былі ненакормлены і недагледжаны.

Улетку дзецям жылося лепш: весялей. Можна пабегчы на рэчку, у лес. Ды ці мала можна прыдумаць цікавых забаў у цёплыя летнія дні?

А зіма і восень былі пакутаю для дзяцей. У нізкай старэнькай хатцы Трахіма цёмна і холадна. Сумныя і галодныя сядзелі дзеці каля вакна. Хацелася выбегчы з хаты—пагуляць у сьнежкі, пакоўзацца. Але ня было ў што адзецца.

„Вось вясною і летам—добра“, думалі дзеці.

Але ня так думаў іх бацька Трахім, які з лядаштым галодным конікам выходзіў на сваю палоску. Вясна для Трахіма—пакута. Насеньня не хапае,—трэба купіць у кулака Яўхіма. Барана раскідалася,—трэба пазычыць у Яўхіма. Потым працуй на яго ўвесь год. Не, для Трахіма вясна—чыстае гора.

* * *

Было гэта вясною. Сядзелі дзеці на прызьбе, грэліся на сонейку.

А бацька іх мучыўся на сваёй вузкай палосцы.

Нукаў, крычаў на коніка, але той ані ня слухаўся, ледзь зьмяняў нагу за нагою. Часта станавіўся, і Трахім ня мог сагнаць яго з месца.

Надзімаюцца жылы ў Трахіма, пот выступае.

„Хоць дапамог-бы хто“,—думае Трахім: „Пазычыць-бы дзе каня?“

Успомніў пра кулака Яўхіма, уздыхнуў цяжка.

Раптам пачулі дзеці, як на вуліцы штосьці затарахцела.

Сяргейка кінуўся да Волькі:

— Ой, што гэта?

— Ой, як страшна грукоча!..

Дзеці забеглі ў хату і адтуль праз вакно глядзелі на вуліцу.

— Глянь, і чалавек сядзіць, не баіцца,—сказаў Сяргейка, калі тое „страшнае“ падкацілася бліжэй.

Сяргейка з Волькаю асьмеліліся. Выбеглі на вуліцу. Тут яны і даведаліся, што гэта „страшнае“ і чаго яно тут.

* * *

Калі, сумны і зморaны, вярнуўся Трахім да хаты, дзеці падбеглі да яго:

— Тата, таварыш трактар прыехаў! З машыннай станцыі прыслалі,—дадала Волька.—Казаў дзядзька, што ня будзем болей галадаць. Злучым усё поле разам і разам будзем урабляць. І яшчэ ён казаў, што многа хто запісваецца ў колгас.

— Ведаю, ведаю,—адказаў павесялеўшы Трахім.— Я даўно зьбіраўся ў колгас, але ў нас яшчэ ня было. Цяпер, то ўжо канешне будзе. Трактар паможа.

* * *

Волька і Сяргейка ня любілі свае хаты. Часта ўночы, калі ішоў дождж, прачыналіся напалоханыя дзеці з крыкам:

— Тата, нехта ліе ваду на нас.

— Эх,—чухае Трахім патыліцу,—трэба страху папраўляць, а дзе кулёў дастаць?

І вось аднаго разу, вярнуўшыся з рэчкі, дзеці ўбачылі: усе іх лахманы ляжалі каля хаты.

— Тата, дзе-ж мы будзем жыць?—заплакала Волька.

— Недзе будзем,—усьміхаецца бацька.

Трахім перабраўся ў новую сьветлую хату кулака Яўхіма.

Дзеці бегаюць па хаце, раскладваюць свае рэчы. О, як тут хараша! Сьветла і цёпла. І дождж ня будзе палохаць уночы.

Цяпер дзеці не баяцца трактара.



*Трахім мучыўся на сваёй вузкай палосцы.*




# Папярэдзіў

*Апавяданьне М. МАРОЗА*

Міхаська—батрак. У яго няма бацькоў—ён сірата.

Узяў яго да сябе за пастуха Мядовы—багаты дзядзька, што калісьці меў дзесяцін сто зямлі і з чужое працы жыў.

Ён і цяпер не зьбяднеў—мае хутар за сялом, поля дзесяцін дваццаць.

— Сягоньня, Міхась, не вядзі коняй на начлег,—сказаў Мядовы,—падрыхтуй калёсы, ды саломы больш накладзі.

З часам на двор заехаў кулак Даніла, і яны пачалі пераносіць нейкія рэчы з возу Данілы на воз Мядовага. Зьверху накідалі саломы, накрылі воз пасьцілкаю. Даніла пры ад'езьдзе сказаў:

— Дык ты, Мядовы, апаўночы прыходзь з Васілём.

— Прыду.

— Тут нешта нядобрае, трэба прасачыць,—падумаў Міхаська. Штосьці яны шапталі, як засьцілалі воз.

Уночы Міхаська ўстаў і ціханька вышаў з пуні, дзе ён начаваў. Ён нацянькі пабег да хутара. Міхаська праз вакно ўбачыў свайго гаспадара, Данілу і яшчэ аднаго—Васіля.

Гаварылі яны ціха.

— Ты, Васіль, бяры калы; ты, Даніла, доўбню, а калючы дрот я сам панясу. Калі хто сустрэнецца — на месцы прыкончым.

У Міхаські ад гэтых слоў аж мароз па шкуры прабег і ён адбегся ад вакна.

Лямпа ў хаце патухла і тры чалавекі рушылі з хутара на поле. Міхаська назіркам за імі. Постаці спыніліся, прысеў і Міхаська.

— Адсюль пачнем,—пачуўся голас Мядовага.

Даніла яму ў адказ:

— Ну і пшаніцца ў галоты, у комуне, трактарам аралі.

—Нічога, высыплецца яна ў іх, як добра зробім сваю справу.

Далей Міхаська пачуў:

— А я яшчэ дротам калючым—усьміхаўся Мядовы.

— Пабачым, як комунары кінуць машыны ды возьмуцца за сярпок і касу,—казаў Даніла.

Міхаська пачуў, што да яго

нехта ідзе. Яму стала страшна, але ён не варушыўся, бо каб даведаліся, што ён тут—ня жыць яму. Каля яго прайшоў Васіль.

Потым усе яны пашлі да хутара, а Міхаська пабег дамоў. Па дарозе ён хацеў забегчы да старшыні комуны, але змарыўся і адлажыў назаўтра. Міхаська, набегаўшыся, моцна заснуў.

Прачнуўшыся, ён убачыў, што сонейка ўжо высока паднялося. Успомніў пра ўчарашнія падзеі і шпарка выбег з пуні.

Далёка па шляху везьлі жняяркі. Міхаська здагадаўся, што комунары ішлі жаць.

Міхаська як мага пабег да пшаніцы. Машыны стаялі, а касары закошвалі косамі пачатак. Міхаська бег вельмі шпарка, бо бачыў, што ўжо рыхтаваліся пускаць машыны. Ён пачаў махаць шапкаю, але было далёка і ніхто гэтага не заўважаў.

— Вось дойдуць да кольляў,—думаў Міхаська і бег з усяе сілы, блытаючыся ў пшаніцы. Ён махаў шапкаю, крыкнуць ня мог. Жняяркі-ж ішлі наперад. І раптам кінуўся ён перад самай жняяркай. Усе спыніліся.

— У чым справа?

Міхаська прамовіў:

— Там, у пшаніцы, калоў шмат...

Комунары пашлі па пшаніцы шукаць, ня верачы Міхаську. Але зараз-жа адзін за другім пачалі крычаць: „Ёсьць, вось яны“.

Прыбег старшыня комуны. Даведаўшыся, у чым справа, ён



*— Пабачым, як комунары кінуць машыны ды возьмуцца за сярпок і касу...*

забараніў комунарам вырываць калы. Міхаська расказаў аб тым, што было ўночы. Прыехала на поле міліцыя.

Мядовага, Данілу і Васіля арыштавалі і павялі ў міліцыю. Міхаську-ж забралі да сябе комунары.






# Алі

*Верш З. АСТАПЕНКІ* *Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ*

Ля Чорнага мора,
Дзе ў водбlісках хваль
Плывуць караблі
У далёкую даль,
Дзе бераг пяшчаны
Ля чорнай скалы
Апырсквае, ліжа
Вясёлы прыліў,
Дзе ўвысь кіпарысы
Прыгожа ўзрасьлі—
Там жыў татарчонак
Алі.
Ён жыў у завулках
Старой Балаклавы,
Пад сонцам гарачым,
Пад сонцам ласкавым.
Замурзаны, чорны,
Вясёлы, разгульны,—
Сапраўдны смуглявы
Малы бяспрытульны.
Па вуліцах бегаў
І спаў на зямлі—
Малы татарчонак
Алі.
Абпалены сонцам,
Апрануты ў зрэб'е,
На рынку ў гандляркі
Цягаў сабе хлеба,
На ўзмор'і з хлапцамі
Лавіў сабе крабаў
І біўся з хлапцамі,
Чарнявы і зграбны...
А недзе далёка
Плылі караблі
І клікалі ўдалеч
Алі.
І думаў Алі—
Як вялікім ён стане,
Дык будзе напэўна
Тады капітанам,
Што некалі, з часам,
Па хвалях шумлівых



Яго павязе
Карабель ганарлівы.
І будзе ён плаваць
На тым караблі—
Малы татарчонак
Алі.
Аднойчы бяз літасьці
Зьбіты хлапцамі,
Сядзеў ён, мяшаючы
Кроў са сьлязамі...
І нейкі марак
Да яго падышоў,
Пагладзіў завіткі
Яго валасоў,
Пытаючы гучна:
Як клічуць, малы?
І ціха сказаў татарчонак:
—Алі!

* * *

За днём супакоены
Вечар прыходзіў.
Прачнуўся Алі
На даўгім параходзе.
Вясёлы марак,
Што яго прыцягнуў,
Са сьмехам спытаў у яго:
—Адпачнуў?
Даў хлопцу памыцца...
—Гатовы?—спытаў,
—Хадзем, цябе кліча
Ўгару капітан.
У каюце ў Алі,—
За словам слова,—
Пашла з капітанам
Даўгая размова.
Сказаў капітан:
—Дык ты згодзен, малы?
І ціха сказаў татарчонак
Алі:
— Але!

* * *

Плюскаліся хвалі
І біліся з шумам.
Назаўтра пашоў
Параход да Батума.
Ішоў параход,
І на палубе белай
Стаяў татарчонак
Вясёлы і сьмелы.
Сачыў, як зьнікалі
Абрысы зямлі,
Як ля Балаклавы
Ішлі караблі;
Сачыў ён, як хвалі
Плылі і плылі—
Маленькі матрос
Татарчонак Алі.





*Акцябраты рыхтуюцца да зьлёту.*

# На зьлёт, на зьлёт!

Алесь памятае. Гэта было ў 1929 годзе. Яму было тады толькі 8 год. Ён ужо скончыў першую групу.

Яшчэ ў час заняткаў да іх прыходзілі піонэры. Гаварылі аб тым, што ў летку, у жніўні, адбудзецца 1-шы Ўсебеларускі зьлёт піонэраў. У першай групе 25-й школы 27 акцябрат. Піонэры гаварылі аб тым, каб акцябраты таксама рыхтаваліся і дапамаглі лепш правесьці зьлёт.

1-я група рыхтавалася. Вылучаны піонэр для дапамогі акцябратам прыходзіў штодня. Малявалі лёзунгі, плякаты. Рыхтаваліся да выстаўкі піонэрскіх і акцябрацкіх дасягненьняў.

Зьвяно, у якім быў Алесь, падрыхтавала да зьлёту лятаючую модэль самалёту. Спачатку была спроба модэлі. Сабраліся піонэры і акцябраты, было весела і цікава. Усе хвалілі акцябрат за іх добрую падрыхтоўку.

6-га жніўня Алесь устаў раней, чым заўсёды. Сёньня пачынаецца піонэрскі зьлёт.

Пасьнедаўшы, Алесь вышаў на вуліцу. У Менску адчувалася, што сёньня зьлёт. Вуліцы ўпрыгожаны лёзунгамі і плякатамі.

Удзень Алесь маршыраваў на

Пляцы Волі разам з усімі піонэрамі і акцябратамі. На Пляцы Волі адбылося адчыненьне зьлёту. Каля трыбуны праходзілі калёны партыйцаў, комсамольцаў і піонэраў. Піонэраў віталі прадстаўнікі ўсіх організацый.

Пасьля ўсе накіраваліся ў „Дом Культуры", дзе адбылося ўрачыстае паседжаньне.

У рабоце сэкцый зьлёту акцябраты ня прымалі ўдзелу, але Алесь не сядзеў дома, наведваў сэкцыю па рабоце піонэраў у горадзе.

Ён унёс прапанову, каб пабудавалі пры кожным ЖАКТ'е дзіцячую пляцоўку. Яго прапанову прынялі.

Асабліва памятае Алесь выстаўку, дзе была і модэль, якую зрабілі яны—акцябраты 1-й групы 25-й школы.

Гэта было ў 1929 годзе. А цяпер, у 1931 годзе, Алесь—піонэр атраду пры заводзе „Пролетары". Ён цяпер таксама рыхтуецца разам з усім атрадам, з усімі піонэрамі да 2-га Ўсебеларускага зьлёту піонэраў, які адбудзецца ў ліпені месяцы гэтага году.

Алесь рыхтуе з сваім зьвяном рапарт да зьлёту. На зьлёце будуць рапартаваць аб удзеле піонэраў у рабоце заводаў, фабрык, колгасаў, аб політэхнізацыі школы, культэстафэце і інш. рабоце, якую правялі піонэры з часу ад 1-га да 2-га зьлёту.

Работы шмат. Алесь пасьпявае, бо ён рыхтуецца да зьлёту не адзін, а з усім зьвяном. Ім дапамагаюць і акцябраты.

**Шпіцэр.**



*Колгаскі дзіцячы сад на полі.*

П. ГАЛАВАЧ

# ДЭЛЕГАТЫ У КАЛГУНЕ



*Урывак з аповесьці „СПАЛОХ НА ЗАГОНАХ"*
*Малюнкі ПАШКЕВІЧА*

Дзед Дыбун і трое маладых хлапцоў рэзалі ў пуні сечку, калі брама рашчынілася і ў парозе спыніліся, вітаючыся, дэлегаты з Цярэжкавага Броду.

— Паглядзець хочам, як вы тут.

— А вы-ж гэта адкуль?— запытаў дзед.

— З Цярэжкавага Броду, дэлегацыя.

— Дык выглядайце, выглядайце, мы не шкадуем. Тут у нас салома толькі і сена трохі.

Дэлегаты ўвайшлі ў сярэдзіну вялізнае былое панскае пуні. З абодвух бакоў у пуні ляжалі аж пад самую стрэху высокія скірды саломы. Дзед паказаў рукою на салому:

— Скармілі-ж ужо багата, дый і на падсьціл багата пайшло. Саломы ў нас багата.

— І дабра-ж, мусіць, багата?—праказаў мужчына-дэлегат.

— Яно і дабра ня мала, убачыце і дабро... Вы ўжо самі, хлопцы, рэжце,—зьвярнуўся ён да сваіх,—а я пакажу ім.

Як ішлі праз гумнішча па сьцежцы ў сьнягу, дзед паказаў пуню з сенам і пасьля павёў дэлегатаў у сьвінарнік.

— Гэты хлеў мы ўжо летась збудавалі. І жывёлінка цёплае любіць. У сярэдзіне тут і кухня для статку. Па-маленьку робім усё. Цяпер, гэта, нам многія зайздросьцяць, а раней і цяжка было, ды яшчэ як цяжка,—



развражаў ён.—Колькі бабы пагаласілі, ую-ю-ю-у! А цяпер сьмяюцца, што баяліся. І сам я. Як паехаў сюды сын, ды паступілі ўжо мы, дык я ні за што не хацеў даць хату сюды перавозіць, няхай у комуне, думаў, буду, а хата каб стаяла, мала што, усялякае думалася. А сын не паслухаў і перавезьлі хату. Гэта вунь яна,—дзед паказаў рукою на нізкую старую будыніну, — там цяпер збруя наша ляжыць. І добра што перавезьлі.



Як цяжка было, ды ўсялякае думалася, дык і назад пайсьці ня раз мерыўся, але хаты няма сваёй, куды пойдеш? З-за гэтага застаўся, а то-ж і ад сына хацеў пайсьці. Сын ведаў гэта, таму і разбурыў хату, а цяпер я дзякую, што разбурыў, што адразу сваё з коранем выкапалі і сюды перанесьлі... Вось...

Дзед адчыніў дзьверы і ўпусьціў дэлегатаў у сьвінарнік. Гэта быў нізкі хлеў з памостам. Пасярод вузкі калідор, а па бакох загарадкі для сьвіней, кожная асобна.

— Восемнаццаць у нас кабаноў адных,—казаў дзед.—Што сабе, а што і прадаць, бо і грошы-ж патрэбны. Даглядаюць іх хлопцы: трое хлопцаў сюды прызначаны ў нас.

Дзед сагнуўся, прасунуў у загарадзь руку і пагладзіў па галаве кабана, паскроб пальцамі ў яго па шыі. Кабан выцяг галаву і захрукаў.

— Дзюшка, дзюшка, — адазваўся дзед і ўсьлед растлумачыў.—Гэты хварэў быў, але акрыяў і цяпер ужо есьць. Крышку схудаў, ведама, не даядаў, але пудоў пятнаццаць будзе. А тут за сьцяною куры. Хадзем, але каб толькі не павыскаквалі, яны ў нас прыткія.

На драўляным памосьце прасторнага аддзяленьня расхаджвалі высокія белыя куры і разграбалі накіданую на памосьце салому. Дзед сыпануў на памост жменю зерня і куры адразу скучыліся, заквохкалі, пачалі зьбіраць зерне.

— Дарагія гэта куры, пакуль што іх на завод толькі купляюць. Па рублю яечка прадаем...

— Уй-я! Чаму гэта?

— Такіх курэй вельмі мала ёсьць,—растлумачыў дзед.—Мы самі іх ледзь купілі... А гэта кухня поруч тут.

На кухні, складзеная самімі комунарамі, печ з вялізным катлом. У куце нейкая прасторная машынка і каля яе цэбар з буракамі. Далей ля сьцяны дзежкі з мякінай і атрубямі. Каля печы стаяў, усьміхаючыся, малады хлапец. Калі адна з жанчын падышла да машыны і пачала разглядаць яе, ён усыпаў у машыну буракоў і пакруціў за ручку кола. Зьнізу ў цэбар пасыпаліся дробныя, парэзаныя кавалкі буракоў.

— А цяпер,—паклікаў дзед,— да кароў хадзем. Кароў у нас багата, а хлява ім яшчэ добрага мы ня збудавалі, дык у іх ня зусім цёпла.

У высокім прасторным хляве пад стольлю вузкія акенцы. Па бакох хлява загарадзі для кожнай паасобна каровы. Дэлегаты маўкліва стаялі пасярод хлява і азіраліся наўкола. Кожны з іх у гэты момант пра сябе пералічваў колькі ў хляве кароў. Палашка абводзіла наўкол сябе вачыма, трымала палец ля губ і моўчкі лічыла.

— Аж сорак штук!—зьдзіўлена праказала яна.

— Сорак тры,—пацьвердзіў дзед,—і два бугаі завадзкія.

Каровы пазіралі на зьдзіўленых дэлегатаў, цяжка саплі і перажоўвалі ежу. Палашка яшчэ раз азірнулася наўкола і запытала:

— А масла як? Адбіраюць ад вас?

— Хто гэта?

— Ну, а чыя камуна, хто кіруе вамі.

— Як-жа гэта хто адбярэ? Што лішняе, тое прадаем, а адбіраць ніхто не адбірае.

Заўважыўшы зьдзіўлены твар Палашкі, ён растлумачыў:

— Хто-ж адбярэ, калі мы гадуем статак? Масла мы прадаем і сабе хапае. У сталовай убачыце,—раніцою ў нас масла да гарбаты ёсьць і ўвечары.

Пасьля яшчэ аглядалі авечак, клець з дабром і адтуль пашлі ў сталовую. У сталовай дзед пакінуў іх адных, а сам пашоў шукаць Каськевіча. Дэлегаты сядзелі на ўслоне каля сьцяны і разглядалі сталовую. Насупроць іх у меншым пакоі гулялі трое дзяцей. Яны былі ў аднолькавых чорных паліто і ўсе былі абуты ў валёначкі. У другім баку за незачыненымі дзьвярыма была кухня. Палашка ўвесь час пазірала на дзяцей, а потым узьнялася, пацІху падышла да дзьвярэй дзіцячага пакою і стала там. Дзеці стаялі каленкамі на нізкіх услонах і разглядалі нейкую кніжку з малюнкамі. Калі яны

зьмецілі Палашку, усе адвярнуліся ад кніжкі і адзін запытаў у яе:

— Цётка цацак паглядзець хоча?

— Ага, хочу, дзеткі, пакажэце мне.

Дзеці зьлезьлі з услона і ўсе трое прынесьлі да Палашкі розныя цацкі. Палашка пазірала



на цацкі, на радасныя твары дзяцей і запытала:

— Чые гэта сьвіткі ў вас?

— Нашыя,—зьдзіўлена адказалі ўсе ў адзін голас.—А ў цябе хіба ня цётчына сьвіта?

У мяне свая, а ў вас казённыя.

— І ў нас—свае.

— І шапкі такія ва ўсіх.

— І валёначкі ва ўсіх...

Палашка пагладзіла рукой па шчацэ меншага, хацела ісьці назад, як нечакана гэты хлапчук запытаў у яе:

— Ты ў нас жыць будзеш?

— Ага, у вас, дзеткі, у камуне.

— І мы ўсе ў камуне жывём.

— А чым-жа вас кормяць?

— Усім. Яечкі дае цётка, сыр, масла. Гэта наш стол, а там мамы нашыя ядуць.

Палашка яшчэ крыху пастаяла і адышла назад да сваіх.

Вярнуўся дзед і сеў побач з дэлегацыяй.

— Яна няма, у лес паехаў. А ў полудзень убачыце і яго.

— А хіба і ён у лес езьдзіць?—зьдзіўлена запытаў мужчына.

— А то як-жа.

— А Бабковічыха-ж казала, што ён, як пан, толькі кіруе.

— Яшчэ што яна скажа. І кіруе ён і працуе. Выгналі яе, дык плявузгае няма-ведама што. Не хацела працаваць, па гасьцёх езьдзіла, а казала, што ў больніцу. А як праверылі ды выключылі, дык цяпер плявузгае. Яго толькі шкода,—казаў дзед,—ён ціхі, працавіты мужчына. Каб ня ён, дык-бы яе даўно выгналі, але яго шкадавалі...

А з-за яе колькі сварак было! Усё ёй ня так: той больш зьеў, той менш зрабіў, той схаваўся з яблыкамі і ёй ня даў, іншы ёй другім чым не дагадзіў,

і ўсё сварка... Ей і чорт ніколі не дагодзіць.

Яшчэ доўга дэлегаты гутарылі з дзедам, распытвалі яго, агледзелі і некалькі кватэр комунараў. А дадому варочаліся як зьмеркласе, пасьля вячэры ў комуне.

Калі выехалі ў поле і бягом пабег конь па роўнай асьнежанай, утоптанай дарозе, калі падзьмуў у твар халодны вецер, Палашка схавала твар у каўнер кажуха, скурчылася і пачала сама з сабою разважаць пра бачанае ў комуне.

А два другія дэлегаты гутарылі паміж сабой. Палашка слухала іх і абдумвала іхныя словы.

— Стары, а не перахрысьціўся пасьля вячэры,—праказала жанчына.

— А чаго? А бы было што есьці, дык і бяз хрышчэньня можна...

— Есьці ёсьць што, як відаць, многа дабра... Хлеб у кошыках, колькі хто хоча, варыва, мяса, і кантлеты... А малака-ж, не перагон зусім, а чыстае. Дзед аж тры шклянкі выпіў... Многа дабра ў іх...

Замоўклі. Потым жанчына ціха азвалася:

— Хто яго ведае, як яно лепш будзе, можа і трэба гэта комуна ўжо, мо' такі сьвет цяпер настаў...

Мужчына на яе словы не адказаў нічога. Гутарка спынілася. Ехалі моўчкі ўсю дарогу, аж да самага дому.

Але кожны з іх думаў пра адно і тое-ж, пра бачанае ў комуне.



# КУЛАЦКАЯ ПОМСТА.

Прышоў увечары кулак Ачумелаў да свайго прыяцеля кулака Пузікава.

— Заўтра ў колгасе вечар важны будзе. Школу новую пабудавалі. Сход будзе ў школе. Нехта з гораду ад шэфаў прыехаў. Давай парадуем іх і мы. Ночы цяпер цёмныя, асеньнія.

— Аб чым ты гаворыш?

— А вось аб чым. Зьбяруцца колгасьнікі ў школу, будуць слухаць даклад. Мы пераадзенемся, падыдзем да школы, замкнем дзьверы. Абліем сьцены газаю, а там—чырк і гатова.

— Зловяць. Ня варта зьвязвацца...

— Ня зловяць, ня бойся.

— Не, Цімох, я на гэта ня згодзен. Хоць мне і не даюць жыцьця, але паміраць я не хачу. Навошта нам самім гэта рабіць? За грошы ўсякі можа запаліць запалку.

— Што праўда, дык праўда. Толькі трэба надзейных людзей знайсьці для гэтае справы.

— Лепшых за Сьцяпана Ложкіна і Трахіма Балалайкіна ня знойдзем. На колгас яны цяпер вельмі злосныя, бо ўчора выключылі іх з колгасу за гультайства. Злосьць у іх не адыйшла. Зараз-жа пойдзем да іх.

На другі дзень комсамольцы і піонэры ўпрыгожылі новую



*Падпальшчыкі падкраліся да школы...*

школу зялёным вецьцем і чырвонымі сьцягамі. Дзень быў ясны і цёплы. Да школы падыходзілі старыя і малыя. Кожны любаваўся школаю.

— Якая вялікая! Якая прыгожая! Якая сьветлая!

— А ў сярэдзіне яшчэ лепш! Асобны пакой для вешалкі. Асобны пакой для гульняў.

— Усе будуць зайздросьціць нашай школе!

Кулакі праходзілі каля школы і гаварылі сабе пад нос:

— Нядоўга вам любавацца. Усё скончыцца ў гэтую ноч...

Вечарам колгасьнікі пашлі на сход. Народу ў школе сабралася многа. На стале ляжала шмат кніжак. Настаўнік сказаў:

— Заўтра ў новай школе пачнуцца заняткі. Вось падарунак ад нашых шэфаў. Яны прыслалі для нашых дзяцей



*Марыля схапіла яго за руку...*

200 добрых кніжак. Цяпер будзе даклад аб жыцьці працоўных у нас і заграніцаю. Аб усім вам раскажа таварыш з гораду.

Да стала падышоў высокі чалавек у акулярах. Колгасьнікі прыціхлі. Даклад пачаўся.

Падпальшчыкі падкраліся да школы. Вось першыя дзьверы. Раз, раз—гатова, замкнулі. Падышлі да другіх дзьвярэй, прыслухаліся, агледзеліся.

— Ніхто ня бачыць, замыкай, Газаю абліем з таго боку.

Колгасьнікі захацелі піць. Папрасілі прыбіральшчыцу цётку Марылю прынесьці вады. Марыля падышла да адных дзьвярэй—замкнута, да другіх—таксама. Яна прайшла ў кухню. Там дзьверы былі адамкнуты. Пра іх падпальшчыкі забыліся.

Ціханька адчыніла дзьверы, чуе—нехта аблівае сьцяну.

— Падпальваюць, — здагадалася Марыля.

Ціханька вышла на двор, падкралася да сьцяны. Ноч была цёмная. Неба хмарылася. Ложкін выняў з кішэні запалкі... Марыля схапіла яго за руку, закрычала:

— Ратуйце! Падпальваюць школу!

Ложкін хацеў адапхнуць яе, але Марыля моцна трымала яго за рукаў. Балалайкін біў Марылю па галаве, а яна крычала:

— Не ўцячыцё, душагубы!

На крык са школы праз кухню выбеглі людзі. Падпальшчыкаў зьвязалі і прывялі ў школу. Чалавек з гораду запытаў:

— Навошта вы хацелі спаліць школу? Навошта вы замкнулі

дзьверы? Вы хацелі загубіць у агні больш двухсот чалавек? Адказвайце!

Злоўленыя маўчалі. Да стала падышоў стары дзядзька. У яго ад злосьці дрыжалі рукі. Ён сказаў:

— Таварышы, яны хацелі спаліць дзьвесьце чалавек. Вось што я прапаную: прывязаць іх да слупа, абліць газаю і запаліць.

— Прывязаць! Абліць!—крычалі старэйшыя.

— Цішэй, таварышы! Мы павінны быць сьвядомымі. За самасуд нас не пахваляць,—угаварвалі комсамольцы.

— Вы за падпальшчыкаў заступаецеся, вам не шкада людзей?!—крычалі жанчыны.

— Таварышы, супакойцеся! Улада сама расправіцца з імі.—Адказвайце, навошта вы хацелі спаліць школу?—дапытваліся комсамольцы.

— Мы не вінаваты—адказаў Балалайкін.— Нас падгаварылі Ачумелаў і Пузікаў... Вось яны, кулацкія чырвонцы,—і ён выкінуў з кішэні грошы.

— Эх, вы, душагубы!—закрычаў народ.—Лодыры, лёгкаю працаю хочаце зарабляць грошы.

— Дзякуй табе, цётка Марыля, ты выратавала нас ад вялікай бяды,—казалі колгасьнікі.—А з кулакамі савецкая ўлада расправіцца як належыць.



*Сталоўка комуны „Зьвязд“ Пухавіцкі р.).*



# Як зьвяроў лавілі

*Мал. А. ТЫЧЫНЫ*

Быў у горадзе заолёгічны сад, а ў ім многа зьвяроў. Але ня было там

жырафа стракатага,
насарога рагатага,
шэрых сланят,
вясёлых малпянят.

А яшчэ ня было сярдзітай пантэры.

І паехалі людзі лавіць гэтых зьвяроў. Ехалі доўга поездам, ляцелі на самалёце, плылі на параходзе,—аж пакуль не даплылі да Афрыкі. А тут вандравалі па пяскох, пустынях, ехалі на вярблюдах дзень і ноч.

Нарэшце ўбачылі ў стэпу за возерам жырафа. Селі людзі ў аўто, сталі даганяць. А жыраф напалохаўся, як людзей убачыў, ды давай уцякаць.

Аўто-наўздагон,
вось—вось дагоніць,
жырафа зловіць.
А ён імчыцца з усіх ног.
Бег, бег, не дабег,

далей бегчы ня змог.
Змарыўся жыраф—
стаў.

Злавілі яго людзі. Пасадзілі ў клетку.

Шэрых сланят у лесе шукалі. Паселі на ручных сланёў індусы. Заехалі ў густы лес. Маўчаць, стаяць, чакаюць.

Загуло, затрашчала, у лесе зашумела. Нібы гром загрымеў, нібы вецер загудзеў,—гэта ідзе сланіха з дзецьмі.

Раптам людзі верхам на сланёх муштраваных наляцелі на сланіху.

Слонь справа,
слонь зьлева,
б'юць сланіху хабатамі,
цісн уць яе бакамі,
бяда-ліха
табе сланіха!



Напалохаліся сланяты, сталі. Ня ведаюць, што рабіць. А людзі цішком абкруцілі ім ногі вяроўкамі і прывязалі да тоўстых дрэваў. Гэтак злавілі і сланіху.

Накапалі людзі ў лесе ямаў шырокіх і глыбокіх. Зьверху наклалі тоненькіх галінак. А на іх зямлі накідалі, пасадзілі траву, кусьцікі, кветкі. Гэта, каб пастак не заўважыў хітры насарог.

Пашоў насарог увечары ваду піць. Ідзе сабе лесам, таўшчэзны, сапе. Ня ведае, што на дарозе да рэчкі—пасткі яго чакаюць.

Упаў ён
проста ў яму
усімі нагамі.
Трaха бедны насарог
не зламаў свой гостры рог.

Але нічога ня зробіш—папаўся. А адгэтуль—у клетку.





Недалёка ад нэгрыцянскай вёскі лавілі малых вясёлых малпянят. Гарбуз вялікі ўзялі, у ім дзірку выдзяўблі. І гарбуз стаў, як гаршчок. Паставілі гаршчок на зямлю перавернуты дагары, а пад гаршчок насыпалі ўсякіх прысмакаў. З усіх бакоў у гарбузе нарабілі дзірак.

Пад вечар прыбеглі да гаршчка малпяняты маленькія, дурненькія, цікавыя. Пакруціліся, пабегал і давай заглядацца ў дзірачкі. А там ляжаць бананы, салодкія гарбузікі, гарэхі лесавыя.

Палезьлі яны прысмакі даставаць.
Малпяняты маленькія набралі жменькі
поўныя, поўныя гарэхаў, гарбузікаў,
а назад—ніяк.

Дзірачкі вузкія і выцягнуць можна толькі руку, а ня жменю з прысмакамі. Але ніяк ня могуць яны здагадацца, як рукі дастаць. Крычаць, лемантуюць, а прысмакаў з рук ня выпускаюць.

Так і злавілі іх каля гарбуза.

Па пантэру паехалі на выспу далёкую. Там у лесе вечарам пастку паставілі. Пастка як мяшок з сеткі. Вісіць на дрэве разгорнуты. Кінеш у гэты мяшок што цяжкое, ён і сьцягнецца зьверху, як сетка з мячыкам. На дне сеткі курэй прывязалі. Пастка гатова.

Пашлі людзі спаць, а пантэра ўночы вышла на паляваньне. Ідзе лесам—сярдзітая, галодная. Усё чуе, усё бачыць, дарма што цёмна.

Здалёку пачула курэй і ну падкрадацца. Лезе на дрэва, бачыць курэй. Скокнула яна да іх на бліжэйшую галінку. Раптам галінка хрусь,—зламалася А пантэра паляцела проста ў сетку.

Кідаецца ў сетцы, як у клетцы,
злуецца, храпе,
пазурамі скрабе.

Мяшок гушкаецца туды-сюды, а шнурок ад гэтага мацней зацягваецца. Перахітрылі людзі пантэру, падпілавалі тую галінку, на якую яна мусіла стаць, каб курэй дастаць.





З сеткі яе пасадзілі ў клетку.
А ўчора ў самы заолёгічны сад прывезьлі
жырафа стракатага,
насарога рагатага,
шэрых сланят,
вясёлых малпянят
і яшчэ сярдзітую пантэру.

## ВОЖЫК І САБАКА

*Жарт*





*Глядзі на стар. 29.*



**СКАЗБУШ**

# ВОГНЕНАЯ ЗЬМЯЯ

1

Бабка Кацярына любіла апавядаць дзецям усялякія казачныя прыгоды: пра ведзьму, лесавікоў, дамавікоў. Апавядала яна пра усё гэта дужа цікава, смакуючы, перажоўваючы кожнае слова, нібы ела салодкі піражок.

Учора, сабраўшы дзяцей, яна апавядала ім страшную прыгоду пра вогненую зьмяю і яе дзяцей—зьмеянят.

Слухаючы гэта страшнае апавяданьне, некаторыя дзеці напалохаліся, а іншыя не паверылі: „ці праўду кажа старая?"

Першым падпасак Івась, хлопец важны і мудры, усьміхнуўся сабе і пачаў:

— Здорава старая хлусіць. Мабыць, я так ня прыдумаў-бы!

Дык вось яны і сталі ворагамі: падпасак Івась і бабка Кацярына. Бабулька ганіла Івася, абзывала яго шалёным, а Івась толькі сьмяяўся і нагаварваў дзяцей супроць бабкі.

2

Але вось здарылися казачная прыгода: рабы Мікітка, прыбегшы позна ўвечары дамоў, расказаў страшэнную навіну: уласнымі вачамі бачыў у лесе вогненую зьмяю. Такую-ж, як казала бабуля.

Дзеці напалохаліся, а бабка сьвяткавала перамогу:

— Ага, нявернікі! Ну, што, праўду я казала?

Толькі Івась не здаваўся.

— Сам пайду на вашу зьмяю паглядджу!

І пашоў. Доўга блукаў у лесе. Бачыў ён зьмяю, ці ня бачыў—невядома. Але дамоў вярнуўся дужа позна і, ня кажучы нікому ні слова, лёг спаць.



*— Вось якая вогненная зьмяя была ў лесе!*

3

Тае ночы ў хаце, дзе жыла бабуля з сваімі ўнучкамі, адбылося неспадзяванае здарэньне.

Позна ўночы раптам пачуўся страшэнны грукат і крык. Усе, хто быў у хаце, ад спалоху прачнуліся і ўбачылі: маленькі Тамаш скінуўся з печы на падлогу і, схаваўшыся ў куток, плача і крычыць:—Зьмяя, зьмяя, вогненая зьмяя!...

І сапраўды сярод хаты ляжала зьмяя. Яна выгібалася і блішчала сіненькім колерам.

Пачуўся вясёлы голас Івася:

— Эх, вы, героі!

Потым чыркнула запалка і ўсе ўбачылі Івася, які стаяў сярод хаты з сукаватаю гнілою палкаю ў руцэ.

— Вось яна ваша вогненая зьмяя,—казаў Івась, паказваючы гнілую палку. Хіба вы ўжо забыліся, як казаў нам настаўнік, што гнілое дрэва сьвеціцца ўночы?





# З ЧАГО ЗРАБІЛІ ЧЫГУНЧЫК

Радзіма чыгунчыка пад зямлею...

Праўда, чыгунчык ня бульба, але-ж яго, як і бульбу, бяруць з зямлі, толькі ён выходзіць адтуль цьвёрдымі кавалкамі жалезнай руды.

Жалеза ў зямлі зьмешана з глінаю, пяском і іншымі народамі, і руду трэба спачатку прамыць і ачысьціць ад прымешак. Потым руду распушчаюць у вялікіх печах. Завуць іх домнамі.

Вы, дзеці, ня бачылі домны? Вельмі шкода. Яны вельмі прыгожыя, а асабліва ўночы. Уявеце сабе высачэзную, круглую, абкутую жалезам печ, яна дыміць, як вялізарная цыгара і ўдзень і ўночы. Зьверху ў шырокую дзірку насыпаюць жалезную руду і вугаль, і зараз-жа з домны выскаквае полымя. Безьліч чырвоных, бліскучых зорак вылятае ў цёмную высачынь неба.

Зьнізу ў домну ўдзімаюць паветра. Вугаль, які пападае сюды разам з рудою, гарыць і растае ў распушчаным жалезе, як цукар у гарачай вадзе.

Распушчаны чыгун набіраюць у вялікія каўшы, дзе ён трошкі астыне, і перавозяць яго ў майстэрні. У майстэрнях чыгун выліваюць у формы, зробленыя з сухой зямлі. Калі чыгун добра



зацьвярдзее, яго вымаюць з формы і шліфуюць.

У сярэдзіне чыгунчык змазваюць пабелкаю, якая застывае і робіцца роўнаю, бліскучаю, як шкло.

Чыгунчык зьверху чорны. Чорны ён ад вугалю, што прымешаны да руды, а ў сярэдзіне пабелены.

Вось і чыгунчык гатоў.

Бачылі вы, дзеці, як цэлыя вазы такіх новых чыгунчыкаў прывозяць у коопэратыў?

Вашы маткі купяць іх.

А праз некалькі гадоў яны паб'юцца—ня кідайце іх тады, дзеці: яны і пабітыя спатрэбяцца. Іх зноў укінуць разам з сьвежаю рудою ў печ, распусьцяць, разьліюць у формы і зноў зробяць новыя чыгунчыкі.

Бульба родзіцца адзін раз, а чыгунчык можа радзіцца шмат разоў. Дык вось, дзеці, зьбірайце уціль і здавайце яго на заводы, дзе з яго зробяць многа новых чыгунчыкаў.

# ВАДЗЯНАЯ ПЕЧ

*Апавяданьне М. МАРОЗА*

Тарасік мінулым летам быў з маткай на дачы. Там ён пасябраваў з малым, такім як сам, Юркам.

Цэлае лета яны дружна жылі і Тарасік усё хваліўся маме Юркам. Мама была здаволена Юркам і абяцала Тарасіку запрасіць Юрку ў горад у госьці.

І вось ужо позьняю восеньню два сябры зноў спаткаліся. Мама Юркі прывезла яго ў госьці да Тарасіка і сказала, што праз тыдзень прыедзе і забярэ дамоў.

Вадзіў хлопцаў бацька Тарасіка ў зьвярынец, у кіно, у дзіцячы тэатр, музэй. І ці мала чаго іншага пабачыў Юрка.

Ужо трэці дзень Юрка жыве ў Тарасіка, але ні разу ня бачыў, каб яны палілі ў печы. Гэта яго дзівіла. Ён ніяк ня мог здагадацца, дзе ў іх печ.

А ў хаце цёпла, хоць на двары і быў мароз. Сорамна было Юрку пытацца ў Тарасіка пра такую звычайную рэч, але гэта яго вельмі цікавіла.

— Тарасік, скажы, дзе ваша печ?

Тарасік усьміхнуўся і сказаў:

— А вось знайдзі!

Юрка мацаў сьцены, але нідзе ня мог знайсьці гарачага месца.

— Не знайду.

— Ну, тады ідзі сюды,— сказаў яму Тарасік.

Пад вакном ля сьцяны Тарасік паказаў некалькі жалезных слупкоў.

— Дакраніся сюды рукою.

Юрка дакрануўся і зараз-жа адняў руку.

— А, пячэ! Дык вось яна? Я ніколі-б не адгадаў, што гэта за слупкі і ніколі-б не падумаў, што гэта грэе хату.

— Гэта штука завецца „батарэя" і ёсьць яна ў кожным пакоі,—растлумачыў Тарасік.

— А ўлетку ў вас, мабыць, дужа горача?

— Не, улетку „батарэі" халодныя,—адказаў Тарасік.

— А чаму-ж гэта так?

Тарасіку стала сорамна, бо ён пра гэта і сам ня ведаў і цяпер яму таксама было цікава ведаць.

— Гэтага я сам ня ведаю, Хадзем запытаем у мамы. Мама павяла іх сходкамі ўніз (яны жылі на другім паверсе). Яны ўвайшлі ў памяшканьне, завалеленае вугалем.

Пасярод памяшканьня хлопцы пабачылі вялікую цагляную печ. Тут стаяў чалавек і кідаў у печ вугаль.

— Вось гэта,—сказала Тарасікава маці,—тыя дзьверы, куды кідаюць вугаль альбо дровы.

Юрка зьдзіўлена запытаў:

— Як-жа яно грэе так высока, аж да вашай хаты?

— У гэтай печы замураваны вялізны кацёл, дзе награваюць ваду. Нагрэтая вада па трубах ідзе ўверх, да кожнай „батарэі". „Батарэі" напаўняюцца гарачаю вадою, вада іх награвае і ў хаце робіцца цёпла. А калі дужа горача, каля кожнай „батарэі" ёсьць у трубе шруба. Яе можна пакруціць і затрымаць гарачую ваду.

— А дзе-ж тыя трубы, што іх ня відаць у хаце?



— А яны замураваны ў сьцяне,—растлумачыла маці.—Дык вось, дзеці, гэты кацёл награвае ўвесь наш дом. Калі-б яго не награвалі, дык ва ўсіх пакоях было-б холадна.

Юрка вярнуўся дамоў у вёску і расказваў усім, як у горадзе адна печка награвае цэлы дом, у якім шмат пакояў. А галоўнае тое, што робяць гэта пры дапамозе вады.



*На фотографіях—асобныя здымкі з карціны „Юныя вынаходцы“*

# „ЮНЫЯ ВЫНАХОДЦЫ“

Белдзяржкіно ў ліпені месяцы выпускае першы дзіцячы фільм за політэхнізацыю дзіцячых ачагоў. Карціна гэта называецца „Юныя вынаходцы“.

Там будзе паказана роля дзіцячых ачагоў у вызваленьні працоўнай жанчыны ад хатніх клопатаў і ўцягненьне яе ў вытворчасьць.

Апрача гэтага, юныя гледачы ўбачаць, як у адным дзіцячым садзе дзеці, пад кіраўніцтвам выхавацеляў і піонэраў, пабудавалі лятаючую модэль самалёту і атрымалі перамогу на ўсебеларскіх спаборніцтвах.

Робіць карціну ўдарная кінобрыгада імя газ. „Піонэр Беларусі“. Над карцінаю ўзялі шэфства газэты: „Піонэр Беларусі“ і „Юнгэр Ленінец“.

Усе дзеці павінны ўбачыць гэту першую дзіцячую карціну.

Ул. Лампэцкі.



Выдавецтва „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: ГАЙДУКЕВІЧ, ЯКІМОВІЧ А.

ЦАНА 18 кап.

# ПАДУМАЙ





*Што гэта такое?*
*Калі гэта чалавек, дык якім чынам яго так змаглі сфотографаваць?*

## ЗАГАДКІ

Ад малака Янук здаровы,
Малака даюць...?

***

Стаіць на ўзгорку лясок,
Расьце пад бярозкай...?

***

У летні вечар на аганёк—
Ляціць ...?

***

Глядзіць Рыгорка ўверх,
Раскрыўшы рот,
Там ляціць...?

***

У руцэ кашалёк,
У кашальку...?

***

У лісточках пры дарожцы
Ён сядзіць на тоўстай ножцы.

Шапка вылезла з травы,
Няма пад шапкай...?

## АДГАДВАЙ СКОРА

Калі кінуць камень у Чорнае мора, якім ён стане?

***

Павялічце скоранька 66 на палавіну. Як гэта зрабіць?

***

Калі курыца стаіць на адной назе, дык важыць 2 кілёграмы. Колькі заважыць курыца, калі будзе стаяць на дзьвюх нагах?

***

У лесе радзілася,
У руках трымаюць,
Праз яго зярняты
Людзі прасяваюць.

## ГУЛЬТАЙ

Як да працы,
Дык гультай,
А як есьці—
Толькі дай.



Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1269. 7800 экз. Галоўлітбел № 1122.